# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 18 (1262) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 4 МАЯ 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.




*Помнік удзячнасці загінуўшым у барацьбе за вызваленне Польшчы савецкім і польскім воінам у Сямяцічах.* *Фота М. Гайдука.*




Праз пару дзён супольна з іншымі народамі мы будзем святкаваць 35-ю гадавіну перамогі над гітлераўскай Германіяй.

Гэта сапраўды дзень радасці! Адчуем яе глыбока, калі задумаемся над мэтамі, якія ставіў нацызм адносна нас.

Кожны жывы можа цешыцца таму, што астаўся жывым. Але гэтая радасць ніколі не будзе поўнай, бо заўсёды ў момантах радасці прыходзяць на думку тыя, якіх ніколі ўжо не ўбачым. Радасць гэтая ў кожнага своя.

А ці таксама цешыцца тая маці, у якой сын вярнуўся з вайны, як маці сыноў і дачок, якія загінулі на фронце, у партызанах, у канцлагеры? Ім і ўдовам ніхто не верне загінуўшага шчасця. Сіротам ніхто не верне прапаўшага дзяцінства. Люты вораг адабраў у дзяцей бацькоў, бацькам — дзяцей. А што адчувае маці, якая не атрымала „пахаронкі" і да сёння чакае свайго дзіцяці? Зразумець то мы можам яе і зразумеем, ну, але памагчы аблегчыць цяжар яе сэрца не ўдасца нікому. І ўсё гэта тым цяжэй, што ў няшчасці аднаго чалавека вінаваты другі чалавек.

Гэта быў фашызм! Каб дабіцца сваіх мэт, не грэбаваў любымі сродкамі. Былі канцлагеры, крэматорыі, голад, нагайкі, смерць ад кулі і агня. Тапілі нас і рэзалі. Аб вуглы дамоў разбівалі дзіцячыя галоўкі. Было ўсё. Найстрашнейшае, што можа прыдумаць чалавек.

Так, гэта вялікае свята ўсіх, хто хоць крыху далажыўся да перамогі над сістэмай, якая несла людзям смерць. Днём Перамогі могуць і павінны цешыцца мільёны людзей таму, што жывуць, таму, што не хацелі быць нявольнікамі, што ратавалі ад няволі іншых, урэшце, што пабілі тых, хто агнём і мячом хацеў пабіць нас.

**Васіль Петручук**



**Летапіс дружбы.** Традыцыйнымі сталі сяброўскія сустрэчы жыхароў прыгранічных раёнаў Польшчы і Савецкага Саюза. Даўняя дружба злучае і Белавежу з Пружанамі. На нашым здымку белавежане хлебам і соллю вітаюць дарагіх гасцей на дзяржаўнай граніцы. Фота (мінулагодняе) Пятра Байко.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# Войшкі

У Войшках (па шашы з Беластока ў Бельск перад мостам на рацэ Нарва паварочваецца направа і ў трох кіламетрах зноў направа пачынаецца гэтае вялікае, бо каля 150 гаспадарак, сяло-вуліцоўка) неабходна не адно пабыць, але і пажыць, каб навочна пераканацца, што цяперашняе тут жыццё абапіраецца на моцных і здаровых традыцыях самабытнай беларускай народнай культуры. Гляньце толькі на афіцыяльныя прозвішчы сялянскіх родаў: Антанюк, Ануфрыюк, Аўдзейчук, Баніфацюк, Баўтручук, Бручко, Валасюк, Васілеўскі, Васілюк, Гурба, Данілюк, Іванюк, Купрыянюк, Левацюк, Ляшэўскі, Матвеюк, Мінюк, Паўлючук, Рудэчка, Рыжынскі, Семянюк, Сяргеюк, Тамашук, Трафімюк, Шастоўскі, Янушкевіч і іншыя і параўнайце іх з мянушкамі, якімі завуць сваіх аднавяскоўцаў войшкаўцы ў штодзённым побыце: Анхімавы, Бароўскіе, Васіле, Вінцэнтыэ, Калішыэ, Красіе, Крохачыэ, Левотіе, Міколае, Полілюлькі, Роміе, Садоўськіе, Сулімкі, Сушнікі, Сэмэнюкі, Тарасоўськіе, Швайчукі, Ярошыэ. Не трэба спецыяльных навуковых даследаванняў, каб сцвердзіць, што пачатак адным і другім далі пераважна ўласныя імёны з праваслаўнага імянінніка ў яго беларускай моўнай версіі. Нярэдка войшкавец мусіць добра падумаць, каб прыгадаць афіцыяльнае прозвішча свайго суседа, з якім жыве праз „пэрэлаз" некалькі дзесяткаў год! Стагоддзямі сфармаваная вусная традыцыя аказваецца намнога мацней пісаных дакументаў.

А што ўжо казаць пра свядомасць сваёй гістарычнай даўнасці? Яна тут засяроджваецца перш за ўсё на ўрочышчы Прыстань, дзе стромкі лясны пагорак крутым схілам абрываецца над самай ракой Нарваю. Яшчэ нядаўна, бо перад другой сусветнай вайной, у гэтым месцы плытнікі-арэлі „прыставалі" са сваімі плытамі-пасамі на начлег. І ад

Працяг на стар. 4



*Войшкі — гэта выразбленая з белавежскай сасны вёска, такіх домікаў тут дзесяткі.*

# ВЫБРАЛІ СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЮ

Мілейчыцкі СКР сваю дзейнасць распачаў 1 верасня 1975 года на базе пятнаццаці сельскагаспадарчых гурткоў, аб'ядноўваючы 1040 членаў. Напрамкі іх працы гэта: механізацыйныя паслугі, рамонтна-будаўнічая дзейнасць, а таксама гаспадаранне на ўласнай дзялянцы. А дзялянка не такая малая. Налічвае яна агулам 590 гектараў. Зямлю гэту пераялі з дзяржаўных фондаў. Была яна слабая, запушчаная. Большасць — гэта аблогі. Трэба было пачынаць амаль ад падстаў. Пакуль яна пачала радзіць, патрабавала вялікіх укладаў. Сеюць перш за ўсё: жыта, авёс, грэчку, лубін, садзяць буракі і бульбу.

Апрача апрацоўкі зямлі, разгорнута тут шырока паслуговая дзейнасць. СКР мае пад сабой тры пункты механізацыйных паслуг: у Паканеве, Харашчэве і ў саміх Мілейчыцах, на якім ёсць дзевяць камбайнаў тыпу „Бізон", шаснаццаць снопавязалак, тры бульбяныя камбайны, трынаццаць бульбакапалак, пятнаццаць ратацыйных касярак, дзве парнікавыя калоны, пяць пасаў для падачы саломы і трыццаць восем трактараў. Гэтая колькасць сельскагаспадарчых машын дае магчымасць паслуг індывідуальным гаспадарам. Нясуць яны дапамогу ва ўсіх, магчымых пры гаспадаранні, працах. Пераважна гэта палявыя работы — пасевы, зборка ўраджаю.



*Дырэктар Мікалай Салышка.*

— Гадоў ад двух назіраецца ў нас цікавая з'ява, — гаворыць дырэктар СКРу Мікалай Салышка. — Калі раней людзі стараліся пазбыцца зямлі, дык зараз наадварот, выкупляюць. Прыкладна, у мінулым годзе перадалі мы індывідуальным гаспадарам аж 120 гектараў ворнай зямлі і 30 гектараў лугоў.

Два гады агульнага гаспадарання далі магчымасць мілейчыцкаму СКРу выпрацаваць пэўны напрамак, пайсці сваёй дарогай. Абмеркаваўшы, вырашылі заняцца гадоўляй свіней. У сувязі з гэтым у 1977 годзе ў Мядзвежыках распачалі пабудову свінарніка. Каб панесці пры гэтым як мага найменшы кошт, выкарысталі тыя матэрыялы, якія, здавалася б, да нічога ўжо не падыходзяць. Адным словам, непрыгодныя рэшткі, прыкладна — выкарыстаныя чыгуначныя падклады, стары этэрніт. І такім чынам вырас свінарнік, які можа памясціць 640 тучнікоў. Цэлы кошт пабудовы, разам з увядзеннем электрычнага току, памясціўся ў трох мільёнах ста тысячах злотых. Хлеўня гэтая двухпавярховая, што з'яўляецца цікавай развязкай. Адно — меншы кошт, другое — займае яна меншую паверхню.

(Працяг на стар. 5)

# УДАЛЫ ПАЧАТАК

Постаць Юркі Трачука цікавая. Абсальвент польскай сярэдняй школы, студэнт рускай філалогіі, ён імкнецца адшукаць сябе ў беларускай паэтычнай творчасці.

Сума гэтых абставін стварае пераканане, што ажыццяўленне свайго таленту і ведаў Юрка Трачук бачыць у спалучэнні з эмацыянальным бокам свайго „я", з прывязанасцю да роднай мовы. Сведчаць аб гэтым яго вершы, надрукаваныя на літаратурнай старонцы.

Першы з іх, „Прагнаны рыцар", — гэта проба арыгінальнай і глыбокай думкі, з аднachасовым простым яе ўфармаваннем. Гэтая цікавая алегорыя з'яўляецца аднachасова прыкладам мастацкай персаніфікацыі з'явы прыроды — ветру, які вуснамі прагнага блукаючага рыцара (ці яго духа) праклінае жудаснае „ўчора".

І тут даходзіць да голасу чуллівая душа паэта:

„...Жаль мне стала ветру —
Маладога брата..."

— брата з яго шчырым сэрцам і крылатай душою, які, загубіўшы сваё маладое жыццё ў „праклятым учора", сёння жыве толькі ва ўспамінах народу і яго песняроў.

Наступны верш:

„Усе мы зялёныя галіны
Аднаго дрэва..."

— гэта філасофская думка ў паэтычнай форме. Канструкцыя думкі сама па сабе таксама цікавая, але тут аўтар дапускае ноту песімізму:

„Усе мы заблудныя
вандраўнікі,
Якія мараць
аб блакіце,
а астаюцца ў хмарах".

Падобны матыў выступае ў адным з наступных вершаў пад загалоўкам „Зніміі", апублікаваным на літстаронцы з 2 верасня 1979 г.

„...зноў я ашукаўся
у сваім адвечным
сонечным
імкненні..."

Адсутнасць веры Ю. Трачука ў дасягненні чалавецтва, у магчымасць здзяйснення мараў „аб блакіце", а таксама і яго асабістае вельмі хуткае расчараванне „адвечным сонечным імкненнем" годнае задумы, а нават крыху непакоіць. Спадзяюся аднак, што гэта толькі часовы псіхічны стан аўтара, стан дэпрэсійнага характару, на які хто ж сабе можа пазволіць, як не душа паэта?!

Асноўнай крыніцай творчай інспірацыі Юркі Трачука з'яўляецца, несумненна, прырода з яе роднымі матывамі, (напрыклад, „Чарадзейскі птах" — „Ніва" № 40, 7 кастр. 1979 г.). Матывы гэтыя паўтараюцца амаль у кожным вершы Юркі і служаць канвой для выражэння яго юнацкіх эмоцый (літстаронкі ў „Ніве" № 26 з 1 ліпеня 79 г. і № 31 з 3 жніўня 79 г.).

„Антр'э" Юркі Трачука на літстаронку, трэба заўважыць, вельмі асцярожны. Ён не гоніцца за аб'ёмам сваіх вершаў, але стараецца думкі фармаваць кампактна, даволі арыгінальна і ясна.

На асаблівую ўвагу, на мой погляд, заслугоўваюць радкі, надрукаваныя на літстаронцы з лютага 1980 г.

„Можа
і таму
так
смакуе сваё,
што
трэба
яго
грызці
зубамі".

Думка, годная вышыні афарызму, сведчыць аб маральнай паставе аўтара.

Першыя два спомненыя вершы, якімі дэбютаваў Юрка Трачук на літстаронцы, розныя па форме і сведчаць аб тым, што аўтару не чужы традыцыйны склад верша народні з прынятай наогул маладымі паэтамі больш ліберальнай сучаснай формай. Можна было меркаваць, што Юрка

(Працяг на стар. 4)


# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ




**В. Швед, папулярны на Беласточчыне беларускі паэт, жыве ў Варшаве. Працуе ў выдавецтве „Książka i Wiedza". Член Саюза польскіх пісьменнікаў.**

**Фота Я. Целушэцкага.**

# Віктар Швед

## ВЯРТАННІ

*Korzenie przez bruk i asfalt*
*nie sięgają ziemi.*
*В. Жукроўскі*

Не прарастуць мае карэнні
Ні праз асфальт, ні пласт бетону.
Жывучых сокаў і натхнення
Мне родны кут дае да скону.

Усё тут блізкае такое,
Тут жыццядайныя крыніцы.
Чую пад босаю ступнёю
Кожны шматок сваёй зямліцы.

І ў шчабятанні жаўруковым,
Што льецца з высі напрадвесні,
Я чую гукі роднай мовы
І роднай беларускай песні.

Мне кроўныя сялян турботы,
Іх добрая і злая доля.
Сялянскага пах чую поту
У летнюю спякоту ў полі.

Калі спяваюць — падпяваю,
Іх кожнай цешуся ўдачай.
А завітае доля злая —
Я плачу — калі нехта плача.

Таму і верш мой не заўсёды
Вясёлы, часам суму поўны.
Жыццю складанаму народу
Заўсёды буду паслядоўны.

І ад калыскі да скanання
Буду ў душы я селянінам.
Маё жыццё — гэта вяртанні
Няспынна ў родныя мясціны.

## ПАГАВАРЫ СА МНОЮ, МАМА...

*Поговори со мною, мама,*
*О чем-нибудь поговори.*
*До поздней полночи до самой*
*Мне снова детство подари.*
*В. Гін*

У сне сваю матулю бачыў,
Яшчэ ў старое хаты сценах.
Малы я, у гадах дзіцячых,
Сядзеў у мамы на каленях.

Матуля баіла мне казкі,
Песні цудоўныя спявала.
Сваёю дабратой і ласкай
Мяне зусім зачаравала.

Няўлоўныя вы, сну хвіліны...
Няма, няма матулі ў Моры...
У снах да сэрца туліць сына,
У снах яму дзяцінства дорыць.

**З балгарскага цыкла**

## БУРГАС

*Вуліца Бургаская ў Варшаве,*
*На якой я ад гадоў жыву.*
*І таму было заўжды цікава*
*Бургас-град убачыць наяву.*

*Нечакана здзейсніліся мары,*
*З хваляваннем ставіў першы крок*
*На зямлю гасцінную балгараў,*
*Дзе царыць пайднёвы сонцапёк.*

*Як жа многа дабраты і ласкі*
*Ад балгараў змог я тут спазнаць!*
*І таму на вуліцы Бургаскай*
*Бургас-град я буду ўспамінаць.*

## ЧОРНАЕ МОРА

Ноччу стагнала цяжка мора,
Бераг глытаючы пясчаны.
Марскую ўтаймаваў прастору
Лагодны вераснёвы ранак.

Сонца бліскучыя прамені
Сыпнула ў мора, як каралі.
Стаяў я ў дзіўным захапленні
Ад харастваа жамчужных хваляў.

Колькі ж чароўнай прыгажосці
Стыхія ўтойвае марская!
Шкадую, я тут толькі госцем,
Мяне дарога ўжо чакае.

## ЁДАВЫЯ ПАРЫ

*Пайлу Дэйкалу*
*прысвячаю*

У нас усё тут згодна з планам:
Разбуджвае мяне таварыш
І мы супольна рана, рана
Бяжым на ёдавыя пары.

А потым нас вітае сонца,
Што выныраe проста з мора,
І нам, у нашай ранняй гонцы,
На ёдавым паветры ўторыць.

Шчыра вітаюць нас балгары
На ёдавым паветры свежым,
З чорна-карычневым загарам
На Мора Чорнага ўзбярэжжы.

## РУСІЯ

*Русії Хаджыевай*
*прысвячаю*

Колькі ж рамантыкі ў Русії,
Быццам бы казачнай русалкі,
Якую хвалі вадзяныя
Песцяць супольна з сонцам яркім.

Ізноў яна ў абдымках хваляў,
Ізноў яе ўзяла стыхія.
А я сабе падумаў з жалем:
Чаму ж ты не мая, Русія?

Яна як быццам не балгарка,
Бландзінка, вочы галубыя.
Усмешку мне дала ў падарку
Русія, слаўная Русія.



# АДЗІНОКІ

Задумаўся. Па-суседску вяселле раўло. Аркестр выў, бы ў ліхаманцы. Гармонік душыўся ад захаплення. Грымеў барабан. Сусед сына жаніў. Сто пяцьдзесят чалавек склікаў. Дзякy багатую яго сын браў.

А ён? Сядзеў адзінокі. Заўтра Новы год. Во, колькі іх было, пяцьдзесят ці шэсцьдзесят. І сам ужо не ведаў. І усё — нібы бліск флеша. Яшчэ ўчора рана кароў пасвіў. Блакітам неба захапляўся, ногі расою мыў і песні спяваў. А пад поўдзень? Усё замітусілася, зарагатала, бы чэрці ў пекле. Познань, Варшава, Модлін, Брэст. Пыл, агонь і дым. Кроў і слёзы, гарачыя пяскі Лівіі, скалістыя, бы штыкі, Монтэ-Касіна. Колькі ж гэтага ўсяго бачылі вочы. І чаму яны не лопнулі ад страху і жудасці...

А пасля што? Ну што? Бачыш. Той самы вузкі палескі загон, толькі крыху набрынеў. Усё было спалена. Будаваўся. Навокал жыццё плыло. Людзі жаніліся. Радзіліся дзеці. А ён? Часу не меў падумаць нат. Багатым хацеў быць. Грошы збіраў, бо толькі яны давалі права на існаванне.

„Ревела буря гром гремел..." — даносілася.

Раві сабе, раві. Кароў трэба ісці даіць. Малако падаражэла. Са дзве каробкі трэба дакупіць. Луг пад Альшынкай узяць. Сена будзе малавата.

„Шумел камыш, деревья гнулись..."

Гні, гні, можа сагнеш карк. Расшумеліся. Распуста. Гневу божага не баяцца.

Ой, нешта ў баку кальнула. Нядобра. Лякарства ўзяць. Дзесяць кропляў. Хай будзе дваццаць. Вось крыху ляпей. Гэта пройдзе. Але нешта вочы мутнеюць. Горача. Душна. Вады! Дзе яна? Нікога няма. Божа, выйсці на двор. Няўжо гэта?

Ратун.... ууу!..

А побач за плотам дом козырам хадзіў. Крычалі „горка водка, горка" ды шумную „Многая лета". Там радзілася новае жыццё.

**У. Дваракоўскі**




### ЯКІ РОД НАШЫХ ВЁСАК.

У 8 нумары „Нівы“ Байко спамянуў маю заметку, у якой я напісаў, як узніклі назвы некаторых вёсак у маёй ваколіцы. Сёння я хачу напісаць у „Ніву“, аб чым даведаўся ад настаўніцы Ніны Цыванюк, якая родам з вёскі Багнюкі, а працуе ў зборнай школе ў Шымках. Цыванюк Ніна пісала магістэрскую працу — манаграфію Ялоўскага старства. Яна запісала гісторыю 30 вёсак і сотні ўрочышчаў.

Як жылі нашы продкі? Яны займаліся рыбалоўствам, ганчарствам, разводзілі пчол, рабілі драўляную пасуду, калёсы, і ўсё патрэбнае ў працы на зямлі. Плацілі падатак рыбай, мёдам, збожжам і палатном. Калісь было многа вадзяных млыноў. На Будах была гута, дзе выраблялі шкло. Вёсачкі, па некалькі хат, былі параскіданы сярод Ялоўскай пушчы, якой засталася зусім маленькая частка і ўжо называецца яна Пагнілое.

Наша вёска Рыбакі мае цяпер 20 хат, а ў 1623 годзе былі запісаны „тры ізбы рыбацкія“ на ўзгорачку над ракой Нарвай. Мне яшчэ давялося бачыць сляды колішняга жыцця. Мацейкава Гара ўзнікла ад таго, што ў Валкавыску быў Мацей, якога засудзілі за нейкі дрэнны ўчынак. Ён адышоў ад Валкавыска 70 кіламетраў і на вялікай гары сярод лесу зрабіў сабе зямлянку. І так вырасла вёска. Дзягелі — назвалі ад таго, што там выраблялі дзёгаць. Ганчары выраблялі з гліны пасуду, значыць займаліся ганчарствам.

Назвы ўрочышчаў выводзяцца ад усякай-усячыны і ад ваенных падзей. У Ялоўцы — урочышча Батарэі — гэта таму, што ў напалеонаўскую вайну там стаялі батарэі. У Тайніцы Горнай урочышча Табары — там у нейкую вайну стаяў табар (ваенны абоз). У Плянтах, Міхалоўскай гміны, урочышча Калечы Багон, бо там моцна біліся з туркамі і было многа параненых (пакалечаных) салдат.

Ялоўскае старства займала ўшырыню тэрыторыю ад вёскі Падазераны да ракі Нарвы, а ўздоўж — ад Ялоўкі да вёсачкі Калясное. З 30 вёсак на гэтай тэрыторыі 6 не існуе: Аўрукі, Альшаны, Міраеўшчына, Русінава, Войшкі і Лясоты. Яны згарэлі ў час вайны і пабудаваліся ва ўрочышчы Цісоўка. На рэшту вёсак няма дадзеных, ад чаго яны загінулі. Маглі загінуць у час войнаў і ад эпідэміі чумы, тыфу і халеры. Расказваў мой бацька, што праз Нову Волю праходзіў полк салдат, які ў мястэчку Тыкацін вымер ад халеры. А ў Новай Волі таксама людзі так мерлі ад халеры, што іншыя не паспявалі іх вазамі адвозіць. Клалі на вазы, як дровы.

У час войнаў ворагі забівалі людзей. У адной вёсцы недзе каля Адрынак швед застаў у хаце адну бабу і хацеў яйкі забраць ано прыказаў яшчэ, каб яна іх зварыла. Сам сеў на парозе, каб баба не ўцякала, ды й заснуў. Тады баба яму гаршчок кіпеню на галаву выліла і так выратавала сваё жыццё.

У гэтыя стораны прыходзілі людзі з усходу і з захаду. У Ялоўцы паўстаў касцёл і царква, быў двор і паднявольныя людзі. Прыехалі і яўрэі. Вёскі разрасталіся, людзі размнажаліся, карчавалі лес, а грушы і яблыні пакідалі для цянька і пладоў. Гэтыя грушы і яблыні яшчэ і цяпер стаяць, як помнікі колішніх падзей.

Ф. Хлябіч



### ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### ГАЛЕНА ГРАМАТОВІЧ І ІНШЫЯ

Брыгадзірша сыраварні на Гайнаўскім малачарскім прадпрыемстве Галена Граматовіч працуе на гэтай пасадзе ад 1972 года. Гэта яе першая праца, да якой прыступіла пасля заканчэння малочнага тэхнікума ў Беластоку. У 1978 годзе атрымала званне дыпламаванага майстра-сывавара. Галена Граматовіч — прыкладны работнік. Яна прывучыла да гэтай прафесіі многіх маладых людзей. Пад яе кіраўніцтвам брыгада дабілася высокай якасці сыра і заваявала другое месца ў краіне.

(яц)

*На здымку злева направа: Галена Граматовіч, Мечыслава Пашкевіч і Яўгенія Слензак.*

### НА КУЛЬТУРНАЙ НІВЕ

## У ОРЛІ

У арлянскім гмінным асяродку культуры знаходзяцца святліца, бібліятэка і клуб прэсы і кніжкі. З іх найбольш карыстаюць моладзь і дзеці. Калі ўжо гаварыць пра моладзь, дык і аб працы гуртка ЗСМП. Заправіламі з'яўляюцца Пётр Кудэрскі і Неаніла Леўчук. Неаніла вядзе дванаццаціасабовы паэтычна-музычны калектыў. Свае здольнасці ў ігры, спеве і дэкламацыі праяўляюць Альжбета Кароўкіна (салістка), Пётр Кудэрскі (іграе на гітары), Віктар Назарэвіч (здольны дэкламатар), Міхал Война (вопытны сцэнарыст) і іншыя. Даволі часта выступаюць яны перад мясцовай публікай. Пад кіраўніцтвам Ніны Мартыновіч (яна дырэктар ГОК) займаецца вакальны калектыў, які складаецца з дарослых асоб (да 1975 года вяла яго светліцовая Вера Валкавыцкая). Выконвае ён беларускія, рускія, украінскія і польскія песні. Дуэт у саставе Лапух і Балла вядомы ўдзельнікам аглядаў беларускай песні. Школьная моладзь вучыцца спяваць і іграць на музычных інструментах. Заняткі вядуць настаўніца спеву Ніна Шуй і музычны інструктар Ян Янушка.

Пластычны гурток карыстаецца вялікім зацікаўленнем у дзяцей. Умела вядзе з імі заняткі кіраўнічка клуба. Выстаўкі дзіцячых работ захапляючыя. На іх малюнкі і разьба. Якімі намаганнямі і пачуццём яны здабываюцца — гэта іншая справа. Лічыцца перш за ўсё стваральная праца, заахвочванне, але і заангажаванне, нараджаючаеся ўменне ды гарэнне. Важна, каб дзеці і моладзь развівалі свае здольнасці і зацікаўленні. Ды ў раннія гады. Важна, калі ёсць каму іх заўважыць і ўмела накіраваць. У клубе адбываюцца таксама для дзяцей вечарыны казак, розныя конкурсы, згадуй-згадулі і іншыя культурныя мерапрыемствы. Цікавым было мерапрыемства з нагоды прыбыцця вясны.

У конкурсе „Моладзь — дзецям“ арлянскі клуб таксама вылучыўся і атрымаў 2 тысячы злотых узнагароды. За яе купяць дзецям і моладзі розныя настольныя ігры і цацкі.

На заканчэнне яшчэ пра арлянскіх дзяўчат і юнакоў. Арганізавалі яны кулікі супольна з моладдзю з Крывой (гэта было на год раней) і з Дубіч Царкоўных. Прыемныя былі гэта сустрэчы. Арлянцы запросяць дубіцкую моладзь да сябе сёлета ў маі.

У арлянскім асяродку „Сучасная гаспадыня“ ЗСМПоўцы арганізуюць курс пячэння салодкіх хлебабулачных вырабаў. У рамках вясенняга пачыну моладзь адрамантуе агароджу, памалюе лавачкі і зробіць кветнікі каля ГОКу. Яна добраўпарадкуе таксама мясцовы скверык.

(яц)

### БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Анталогія беларускай савецкай песні, 1979, стар. 423, цана 86 зл.

Выбар лепшых песень з нотамі беларускіх кампазітараў за апошнія 60 год. Багатая крыніца мелодый і для мастацкай самадзейнасці і для спеваў у сяброўскім коле.

**Каганец К.,** Творы, 1979, стар. 264, цана 22 зл.

Зборнік празаічных твораў, вершаў, драмаў, публіцыстыкі, карэспандэнцыі беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча з часоў „Нашай нівы“. Прадмова, укладанне і каментарыі С. Александровіча.

**Лужанін М.,** З ранку да вечара, 1978, стар. 441, цана 18 зл.

Кніга роздумаў, назіранняў, накідаў партрэтаў пісьменнікаў.

**Шушкевіч С.,** Выбраныя творы ў двух тамах. 1978.

Том І, стар. 384, цана 26 зл., склалі лірычныя вершы, вершы і казкі для дзяцей.

Том ІІ, стар. 336, цана 22 зл., — гэта апавяданні, нарысы, успаміны, крытычныя эцюды творцы.

**Кірэенка К.,** Выбраныя творы ў двух тамах, 1978.

Том І, стар. 624, цана 44 зл., — лепшыя вершы з пленнай творчасці паэта.

Том ІІ, стар. 400, цана 34 зл., — паэмы, апавяданні і аповесць для дзяцей „Сум і радасць дзеда Рэпкі“.

**Баханкоў А. Я., Гайдукевіч І. М., Шуба П. П.,** Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, 1979, цана 14 зл.

Слоўнік змяшчае каля 7 тысяч слоў і ўстойлівых выразаў з сучаснай беларускай мовы і дае ім паясненні. Вельмі патрэбная рэч для тых, хто мае дачыненне з беларускай мовай, асабліва для вучняў сярэдніх школ.

**Кнігарня высылае кнігі за паштовым заліччэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki“, 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.**

(мг)

(Працяг са стар. 3)

## УДАЛЫ ПАЧАТАК

Трачук будзе паслугоўвацца кожнай з гэтых форм у залежнасці ад зместу, ідэі і прызначэння верша. Пакуль што гэта аднак не споўнілася. Шкада, але гэта ўжо справа самога аўтара.

Да чысціні мовы Ю. Трачука, на мой погляд, таксама нельга мець істотных заўваг, беручы пад увагу, аднак, што могуць у яго пракрадацца русізмы тыпу „зарыдаў сабакай“.

Маючы на ўвазе пакуль што даволі скромны змест вядомай нам (апублікаванай) паэзіі Юркі Трачука ў „Ніве“, мае разважанні на гэтую тэму можна разглядаць выключна як асабістыя ўражанні аб яго дэбюце. Незалежна ад гэтага, на аснове эмацыянальных адносін і актуальнай сувязі Юркі Трачука з беларускім словам, яго несумненнага таленту, ступені пазнання культуры і літаратуры польскага і рускага народаў можна зрабіць вывад, што стаіць ён на грунце добрых магчымасцяў развіцця ў галіне беларускай паэзіі.

Разумеецца, што дасягненне гэтай мэты, якая для маладога сёння паэта можа ў будучым аказацца яго „блакітам“, настолькі рэальнае, наколькі абумоўлена працай у напрамку ўсебаковага пазнання ў першую чаргу роднай культуры ў шырокім паняцці гэтага слова, а таксама і пісьменства братніх народаў, з якімі ўжо злучыў лёс Юрку Трачука даволі грунтоўна.

Янка Жамойцін

(Працяг са стар. 1)




гэтага, быццам бы, паходзіць назва ўрочышча. Вядома, такое тлумачэнне гэта ўсяго толькі мізэрнае водгулле таго што тут дзеялася некалькі стагоддзяў таму назад, калі рака Нарва была асноўным шляхам гандлёвых зносін Паўночнага Падляся з Гданьскам і іншымі гаспадарчымі цэнтрамі ніжняга цячэння Віслы і ўзбярэжжа Балтыкі. Па ёй сплаўлялі збожжа, драўніну, паташ, смалу, воск, кужаль, лён, мёд, шкуры і мноства іншых тавараў, на якія багатыя былі людныя і добра загаспадараныя тутэйшыя ваколіцы, асабліва ў XVI стагоддзі. З тымі часамі трэба звязаць таксама назву ўрочышча Кажамякі (пагорак, поле, поплаў), якая можа быць нейкім следам паселішча гарбароў. Але на ўзбярэжжы Нарвы каля Прыстані ёсць сляды і значна ранейшай чалавечай дзейнасці: таямнічыя Могілкі — гэта, праўдападобна, рэшткі паселішча з дагістарычнай эпохі. Побач відаць пагорак, які яшчэ захаваў абрысы насыпу невялікай крэпасці, што, магчыма, у X-XIII стагоддзях сцерагла пераправы праз Нарву. Недалёка ад Прыстані ўрочышча Цэрковіско здобіць легенда пра царкву, што правалілася пад зямлю разам з молячыміся. На першы дзень Вялікадня, кажуць, можна тут пачуць гранне званоў і набожныя спевы, а цёмнымі вечарамі пламеньчыкі свечак доўга-доўга кружаць шырокім карагодам, быццам у крэсным ходзе, спускаюцца да ракі і гінуць у яе тоні. А з назведаных падзямелляў пагорка на Прыстані час ад часу выходзіць постаць воя-велікана, уздзявае на сябе шлем, зброю, прыпасвае меч і сыходзіць, дзвонкаючы ўзбраеннем і стогнучы, да самай ракі, якраз туды, дзе калісьці была пераправа ці мост на старым гасцінцы, што з Гродна праз Бельск вёў на Драгічын...

Няма сумнення, што Войшкі — сяло даўняе, на гэта паказваюць нават назвы яго частак: Хвасты, Сэрэдіна, Вэ-



*Тут не зракліся калаўротаў.*

Працяг са стар. 2)

## Гасцей Алімпіяды прымае „Інтурыст“

Пачаліся таксама заняткі па прафесіянальнай і моўнай падрыхтоўцы барменаў, афіцыянтаў і распарадчыкаў у рэстаранах і гасцініцах, кафэ і бараў, што вызначаны для абслугоўвання гасцей Алімпіяды-80. Лічым, што моўнага бар'ера ў нас не будзе, і працаўнікі алімпійскай службы сервісу належна справяцца з даручанымі ім заданнямі.

Спадзяемся, што ўсе замежныя турысты, якія прыедуць у наш горад, павязуць з сабою самыя прыемныя ўражанні і добрыя ўспаміны пра нашу рэспубліку, пра гасціннасць і сардэчнасць беларускага народа.

 

**БУГ У АГНІ**




Пятро Плаксей прысеў за хлеўчыкам дзядзькі Емяльяна і прагна глытаў паветра. Ад хуткага бегу, хвалявання і чэрвеньскай спёкі не мог проста аддыхацца. Глядзеў на знаёмыя яму яблыні і вішні ў садочку гэтага селяніна з вёскі Турна Малая, бачыў старэнькую хатку, у якой заўсёды віталі яго пасяброўску, як найлепшага госця і толькі цяпер зразумеў, чаму якраз ён апынуўся тут.

„Ці толькі яна дома?“ — хваляваўся яшчэ мацней і цэлай сілай сваёй юнацкай волі пажадаў зараз, каб хаця яшчэ раз убачыць гэтую дзяўчыну, толькі ўбачыць, больш нічога.

*„...і раптам,* — піша мне Пятро Плаксей,— *з хлява выйшла Люба. Я паціху паклікаў яе. Яна ўздрыгнула і адвярнулася ў мой бок. Убачыўшы мяне, яна падыйшла і сказала:*

*— Чаго ж ты прыйшоў?! Тут жа немцы! Яны цябе...“*

Тут Пятро Плаксей абарваў сказ у сваім пісьме. Рука спынілася і не захацела далей, не змагла пераліваць устрывожаных думак на паперу. Не трудна аднак адгадаць, як глыбока гэтая сустрэча з дзяўчынай засела яму ў памяці і сэрцы, калі праз сорак год яна ўсё яшчэ яго хвалюе, калі асталася жывая ва ўсіх дробязях, як бы гэта здарылася ўчора.

— Яны цябе... — абарвала далейшыя словы дзяўчына, бо нават у думках не магла сабе ўявіць, што сапраўды так магло б здарыцца з гэтым маладым, 23-гадовым салдатам.

— Што яны са мной? Заб'юць? — выручыў яе Пятро Плаксей, а Любка паглядзела на яго неяк так, быццам бы развітвалася з ім назаўсёды. Іх позіркі на хвіліну сустрэліся, і дзяўчына засаромелася, пачырванела. Толькі моўчкі кіўнула галавой, што, моў, так, уцякай, хлопча, бо тут бяда.

*„...і заплакала,* — успамінае цяпер Пятро Плаксей, жыхар горада Перм. — *Я толькі сказаў, што ў нас у доце няма чаго есці і курыць...“*

На вясковай вуліцы сапраўды паявіліся немцы. Было іх двое. Ішлі не спяшаючыся і трывожна азіраліся па хатах і панадворках, трымаючы напагатове свае кароткія жалезныя хуткастрэлы.

— Уцякай адсюль, Любка, — ціха сказаў дзяўчыне Пятро. — Толькі асцярожна... — дабавіў яшчэ.

— А ты? — спытала яна, а голас яе дрыжэў ад трывогі і хвалявання.

— Я... я — да сваіх, у дот... тут недалёка, над балотам...

*„...Люба ўзяла нейкае вядро, што стаяла пад хлявом,* — піша Пятро Плаксей, — *і накіравалася ў хату, робячы выгляд, што вяртаецца ад жывіны. Немцы аднак ужо адыйшлі далей, схаваліся за іншымі хатамі і не звярнулі на яе ўвагі. Я паўзком накіраваўся ў карчы, якія раслі зараз за Любчыным панадворкам. А па лесе,* — шчыра прызнаецца даўнейшы баец, — *я не поўз і не ішоў, а проста бег, быццам на крылах ляцеў. Калі дабег я да дота „Камендацкі“ (я ўжо паясняў, што такога дота не было, гэта будзе або „Холм“, або „Быстры“, але не ў гэтым справа), мяне нехта аклікнуў: „Стой!“ Але я не спыніўся. Вартавы не паспеў нават запытаць у мяне пароль, як я двума скачкамі быў ужо пры ім...“*

— Вядзі хутчэй у дот! — загадаў Пятро Плаксей.

*„...ну і прыйшлі мы ў дот,* — піша Пятро Плаксей. — *Я далажыў каменданту і палітруку, што ў вёсцы Турна*

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)

# ВЫБРАЛІ СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЮ

Прадукцыю распачалі 20 красавіка 1978 года. І ў 1979 годзе змаглі ўжо прадаць дзяржаве 1114 штук, агульнай вагой 124 тоны.

— Гадоўлю распачынаем недзе ад вагі 26-45 кілаграмаў і гадуем 5-6 месяцаў, — гаворыць дырэктар СКРу. — Купляем падсвінкаў ад сваіх каапэрантаў, якіх маем не толькі ў нашай гміне, але і ў Драгічынскай, ды Гродзіскай. На будучыню плануем зрабіць гэта крыху інакш. Хочам замкнуць прадукцыйны цыкл у адзін круг.

У сувязі з гэтым робяць намаганні пабудаваць хлеўню для мацёр, каб мець базу для далейшай гадоўлі. Вялікай падтрымкай для выбранай дарогі гаспадарання ёсць тое, што маюць, ды не мала, свайго корму. Пераважна гэта бульба, збожжа, бурачанае лісце. Зразумела, частку трэба і дакупляць. Добра гаспадарыць мілейчыцкі СКР. Адным словам, выбраў адпаведную спецыялізацыю. А гэта найважнейшае.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара

# Светлай памяці сяброўак

Бажэна і Ёля Гжэсюк вучыліся ў бельскім белліцэі, загінулі трагічна ў выпадку 8 красавіка 1980 года.

Цяжка паверыць у смерць сяброўак, а бацькам у смерць дзвюх амаль васемнаццацігадовых дочак. Так нядаўна Бажэна і Ёля былі разам з намі, адыходзячы са школы жадалі ўсім вясёлых свят. Вярнуцца ў школу пасля святочнага перапынку ім не давялося. Але нам зусім не верыцца, што іх няма сярод нас...

Бажэна і Ёля радзіліся ў адзін дзень і ў адзін дзень памерлі. Якія былі? Бажэна была дзяўчынай вельмі вясёлай. Усе цяжкасці жыцця пераносіла з усмешкай. Мела многа ўласных праблем, але ўмела памагаць яшчэ іншым. Усе ў класе яе любілі, бо да ўсіх адносілася аднолькава. Яна вельмі прыгожа спявала, так як і яе сястра Ёля. Яны разам спявалі і танцавалі ў школьным ансамблі „Іскрынкі“. Ёля была дзяўчынай спакойнай і разважнай. Мы вельмі добра памятаем апошні дзень у школе перад святочным перапынкам. У гэты дзень Ёля выглядала асабліва прыгожа — цёмныя хвалістыя валасы, якіх зайздросцілі ёй амаль што ўсе дзяўчаты ў класе, карычневыя вочы і румяныя шчокі. Такой мы яе запамяталі назаўсёды.

У смерць Бажэны і Ёлі ніхто не можа і не хоча паверыць. Для нас яны назаўсёды астануцца жывымі.

Да глыбіні ўзрушаныя
сябры і сяброўкі
з класаў III А і III С


Ёля Гжэсюк.


Бажэна Гжэсюк.

тэшкі. Прыгадаю, што беларускае „ветахі“ паходзіць са старажытнаславянскага „ветхъ“ — „даўні“, „колішні“, „вечны“. А ў „Люстрацыях ваяводства Падляшскага“ знаходзім, што яны ў 1575 годзе належалі да каралеўскіх маёмасцей староства Бельскага і ўваходзілі ў склад фальварка Сталавач як адно з сёлаў вайтоўства Антонаўскага (Антонавічы — сённяшнія Рыбалы), называліся тады Войсне і было ў іх „валокаў 46 зямлі сярэдняй, з якой плоцяць чыншу і іншых павіннасцей па 72 грошаў... затым з кожнай валокі даюць па 2 бочкі (адна бочка аўса важыла 10 пудоў)... лічачы за кожную бочку паводле ўставу па 10 грошаў... апрача гэтага даюць сена з кожнай валокі па 1 возе... лічачы за кожны воз з адвозам паводле ўставу па 5 грошаў... млыноваго плоцяць з кожнай валокі па 6 грошаў... Усяго даходу з гэтай вёскі літ/оўскіх грошаў/ 78 коп 58/грошаў/, або злотых польскіх 197 і 12 з паловай грошаў“. Далей жа чытаем: „Пры сяле Войснях млын на рацэ Нарве з 1 колам, з якога плоціць Хведко Момотовіч... коп 4/і/30 грошаў. Там жа каля таго ж сяла на той жа рацэ млын з 1 колам, з якога Радковічы плоцяць 2 капы... Там жа быў мост, з якога раней плацілі маставога 5 коп, цяпер зруйнаваны, але абяцаюць абнавіць у 1576 годзе і ў 1577 годзе з яго будзе карысць“. А гэта ж толькі тое, што тады войшкаўцы плацілі ў каралеўскую казну. Колькі з іх здзёрлі войты, старасты ды хмара іншых каралеўскіх чыноўнікаў — ніхто ўжо не злічыць, бо тое нідзе не запісвалася... Што ж, зусім не залатое жыццё было ў каралеўскіх падданых у славутым „залатым“ XVI стагоддзі, а якое яно было ў пазнейшыя, яшчэ больш змрочныя часы? І няма чаго дзівавацца, што войшкаўцы запоўнілі наваколныя ўрочышчы зачараванымі скарбамі. Адзін з іх, напрыклад, явіўся на дарозе з Рыбалаў у Войшкі, на Брыкове, пад ахвярнымі крыжамі. З-пад зямлі выходзіў там вялізны кованы жалезам сундук, а ў ім паўнюсенька палаючага золата. Доступ да скарбу сцярог аграмадны чорны сабака. Чэрці тут заўсёды мелі аблічча панічоў і паненак. Валэндаліся яны па „балотах“ па вірах-ямках на рацэ: Кут, Старэ, Дэрэвянка, Камэне, Амбражэёўка, Быхово, Быстра, сустракаліся на брадах Васілёські, Сосновэць, Стары...

Хоць небыліцамі здобілі сваю жыццёвую нядолю, але не легендамі жывіліся штодня войшкаўцы. Падпіраліся сплавам на Нарве (большасць цяперашніх дамоў тут збудавана з белавежскай сасны), заробкамі ў далёкім Беластоку, рамяством. Некаторыя рабілі калаўроты (Захар Сяргеюк), кросны (Карніл Васілюк), займаліся абцёсваннем польных каменняў (Сідар Федарук). Жылі бедна, але і ў гэтай беднасці строга прытрымліваліся стагоддзямі сфармаваных правілаў народнай маралі і тактоўных паводзін, да шляхетнасці і гуманнасці якіх у многіх не дарасла нават да кален цяперашняя так званая „мястовая“ культура.

Больш чым пра мінулае, трэба было б напісаць пра сённяшні дзень Войшкаў. Тут няма заняпаўшых гаспадарак і пустак, кожная лапінка зямлі дбайна дагледжана. І ў той жа час за апошнія трыццаць год адсюль выйшла некалькі дзесяткаў моладзі, якая здабыла спецыяльную сярэднюю і вышэйшую адукацыю. Яны не саромеюцца сваёй роднай вёскі, не пагарджаюць ёю. Мне давялося сустрэцца тут з прафесарам аднаго з універсітэтаў, які, знайшоўшы некалькі вольных ад заняткаў дзён, прыехаў да сваіх старэнькіх бацькоў, каб памагчы па гаспадарцы, навазіць і насекчы дроў, а ўвечары наведаць суседзяў, знаёмых.

Так, маюць Войшкі здаровыя традыцыі!

**М. Гайдук**
**Фота аўтара**




# ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ?

Мяне асабіста пытанне як бы і не датычыла. Не толькі мяне, але і ўсяго старэйшага пакалення, якое дажывае свой век, кандыдатаў натуральнага адыходу на той свот. Мы, якія ўступілі ў восьмы дзесятак (а найзацятшыя ў дзевяты), да людзей залічацца не павінны. Бо які ж чалавек са старога грэхата! Толькі клопат людзям.

Але не забывайце, маладыя (і ў роеквіце год), дзень за днём, гадзіна за гадзінай старасць падбіраецца да кожнага. Закон прыроды! Таксама па закону прыроды жывы чалавек пра жывое думае. Не асуджайце мяне, старога, калі я яшчэ намагаюся даць адказ на такое сур'ёзнае жыццёвае пытанне.

Ведалі мы, бyўшы маладымі, якія мы людзі. Прыгнечаныя пануючым класам, жылі ў безупыннай нястачы, у турботах і клопатах пра хлеб надзённы. Брак зямелькі, брак заробкаў прымушаў людзей цярпець голад, холад і безнадзею, штурхаў на пуцявіны злачынства. Беспрацоўе ў горадзе, нэндза ў вёсцы — такія карціны можна было сустрэць усюды.

А замежныя фірмы тым часам выпампоўвалі лясныя багацці з краіны. У нас, напрыклад, той лічыўся шчаслівым, хто ўладкаваўся ў тартак. Удалося і мне адну зіму злавіць тое шчасце. Праца на тартаку была цяжкая, катаржная. Але пад брамай заўсёды стаялі беспрацоўныя: ануж каго выкінуць з працы, зойме яго месца. Таму ўладальнікі тартакоў не дбалі аб рабочых, не будавалі ім жылля, даводзілася здалёк хадзіць у пушчу на працу. Давялося і мне тую зіму кожны дзень адмераць 24 кіламетры пешкі. І гэта лічылася шчасцем! Вось якія мы ў свой час былі людзі.

Зладзейства было чымсьці звычайным. Галота турмы не баялася. Турма абяспечвала тым, чаго бедныя на волі здабыць не маглі. Давала кватэру, пасцель, ежу. І нямала спрытнюг уладкоўвалася на зімовы тэрмін у гэтую дзяржаўную ўстанову. Гэта не казка.

Сучаснае людское жыццё непараўнальнае з тым, што ўведала наша маладосць. Нам, старэчам, здаецца: чаго б яшчэ хацець?! А хацець ёсць чаго. Гэта ведаюць прыстойныя грамадзяне. Адзін з іх паставіў данае пытанне ў „Ніве“. Я, які паціху падбіраюся да дзевятага дзесятка год, інвалід II групы, год як рэнтыст, стоячы адной нагой у магіле, адважуся адказаць на пастаўленае пытанне. Якія вы самі — такія і вашы сані. А мы самі, гэта значыць я і ты, ён і яна, іхняя сям'я, вёска, гміна. Так, так! А ў нас часам бывае так, што ў гміне праўда гіне. А так быць не павінна. А праўда гіне таму, што люд усялякі: благі, добры і ніякі. Ніякіх найбольш. І з імі найгорш. Бо ім і так і гэтак добра. Благога чалавека, як гарбатага, толькі магіла выправіць. А добрыя — даволі маюць: працай надсядаюцца, з ліхам-злом ваююць. Так што грамадскім пачынам вырашыць пытанне не бярыцеся. Бо нічога добрага не даб'ецеся. Ваду вары — вада і будзе.

А я раіў бы вам, людзі, прымяніце маю раду. Сам сябе пазнай, браток, спераду, бакоў, ззаду. І кожнаму пастарацца з ніякага ў неабыякога ператварацца. З павольнага — у звітнага, актыўнага, амбітнага. А таксама, маім *zdaniem* грунт — сачыць за выхаваннем!

**Дзядзька Квас**





 

